# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 10 лістапада 1994 года | № 120 (10820) | Цана 50 руб.

■ Парламент: дзень за днём

## ПАРАДАК ДНЯ СЕСІІ РАСШЫРАЕЦЦА

8 лістапада пасля двухтыднёвага перапынку прадоўжыла работу шаснаццатая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання. Адкрыў пленарнае пасяджэнне спікер Мечаслаў Грыб, які падвёў вынікі работы парламента за тры тыдні заканатворчай дзейнасці. Ён паведаміў, што з унесеных у парадак дня *55* пытанняў разгледжаны 33. Гэта ў першую чаргу законы, якія прымаліся ў мэтах развіцця Канстытуцыі, а таксама якія датычаць станаўлення рыначнай эканомікі, неадкладных мер па вываду яе з крызіснага стану.

Старшыня Вярхоўнага Савета ў той жа час адзначыў невысокую патрабавальнасць асобных дэпутатаў да сябе. Адсутнасць дысцыпліны і самакантролю нярэдка прыводзіла да таго, што на многіх пасяджэннях ледзь-ледзь дацягвалі да кворуму. Між тым вынікі праведзенай праверкі паказалі, напрыклад, што з 17 па 21 кастрычніка на пленарных пасяджэннях адсутнічалі 100 дэпутатаў, з якіх уважлівыя прычыны мелі толькі 48 чалавек. Мечаслаў Грыб паведаміў, што гэтая праблема была абмеркавана на пасяджэнні старшынь пастаянных камісій. Прынята рашэнне ў раздзеле "Рознае" пайменна называць дэпутатаў-прагульшчыкаў. Тыя з іх, хто працуе ў Вярхоўным Савеце на прафесійнай аснове, не будуць больш прадстаўляцца да матэрыяльнага ўзнагароджання. Непрафесіяналы, якія працуюць на вытворчасці, за дэпутацкі прагул будуць пазбаўлены аплаты камандзіровачных. Мечаслаў Грыб звярнуўся з просьбай да тых парламентарыяў, хто не хоча добрасумленна працаваць у Вярхоўным Савеце, добраахвотна скласці з сябе дэпутацкія паўнамоцтвы.

Потым парламент унёс у парадак дня пытанне аб стварэнні дэпутацкай камісіі па вывучэнню фактаў, апублікаваных у некаторых газетах, якія кампраметуюць дзяржаву і яе першых асоб. Размова, перш за ўсё, ідзе аб некаторых публікацыях газеты "Известия". У прыватнасці, 27 кастрычніка газета надрукавала матэрыял уласнага карэспандэнта па Беларусі Аляксандра Старыкевіча "Прыём на вышэйшым узроўні атрымлівалі ў Беларусі верхаводы мафіі". У ім сцвярджаецца, што беларускія ўлады кантактавалі з прадстаўнікамі мафіёзных структур — міжнароднымі гандлярамі зброяй, якія знаходзілі ў рэспубліцы цёплы прыём. Паводле слоў парламентарыя Віктара Піскарова, дэпутацкая камісія павінна разабрацца з фактамі ўцечкі матэрыялаў аператыўнай дзейнасці праваахоўных органаў, што прыведзены ў артыкуле. Большасць дэпутатаў схільныя лічыць, што даны матэрыял — гэта, перш за ўсё, палітычная справа, мэта якой паказаць, што Беларусь гандлюе зброяй. У выступленнях дэпутатаў неаднаразова падкрэслівалася, што такія публікацыі кампраметуюць не толькі першых асоб краіны, але і саму дзяржаву. Як паведаміў Генеральны пракурор Васіль Шаладонаў, пракуратурай узбуджана крымінальная справа па фактах, апублікаваных газетай "Известия", і паабяцаў у бліжэйшы час прадставіць дэпутатам больш падрабязную інфармацыю па матэрыялах гэтай справы.

Па прапанове Станіслава Шушкевіча камісія зоймецца таксама праверкай крыніц артыкула, надрукаванага ў перыяд прэзідэнцкай кампаніі газетай "Советская Белоруссия". Ён быў апублікаваны са спасылкай на неісную галандскую газету і, паводле слоў экс-спікера, сфабрыкаваны ў правакацыйных мэтах у нетрах афіцыйнай прапагандысцкай структуры былога ўрада. Падрыхтоўка да слухання новага пункта парадку дня сесіі даручана намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Івану Бамбізу і старшыні парламенцкай камісіі Анатолю Новікаву.

Сесія ўнесла ў парадак дня яшчэ два пытанні: аб крэдытаванні ЖБК і інфармацыю дэпутата Сяргея Антончыка аб фактах карупцыі сярод асоб, якія маюць адносіны да акружэння прэзідэнта.

Потым дэпутаты разгледзелі змяненні і дапаўненні ў Закон "Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь".

Па рашэнню дэпутатаў у Закон "Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь" унесены артыкул, у якім гаворыцца, што члены праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі выбіраюцца Вярхоўным Саветам па прадстаўленню старшыні праўлення Нацбанка. Акрамя гэтага, у саставу членаў праўлення цяпер будуць выбіраць па аднаму прадстаўніку парламента і Кабінета Міністраў рэспублікі. Да трох месяцаў прадоўжаны тэрмін разгляду дакументаў на рэгістрацыю новых банкаў. Да цяперашняга часу на гэтыя мэты адводзілася толькі 30 дзён, і, паводле прызнання Станіслава Багданкевіча, такога тэрміну было яўна недастаткова для таго, каб дасканала вывучыць дакументы, пададзеныя на рэгістрацыю.

У той жа час парламент адмовіў Нацбанку ў дадатковых паўнамоцтвах, што датычаць магчымасці прад"яўлення санкцый камерцыйным банкам, якія сістэматычна праводзяць рызыкоўную крэдытную палітыку, што выражаецца ў высокім узроўні крэдытаў без матэрыяльнага забеспячэння, невыкананні эканамічных нарматываў, правіл і прынцыпаў крэдытавання, стратнай дзейнасці банка.

Дэпутаты ўнеслі таксама змяненні ў Закон "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь". Цяпер службовым асобам і спецыялістам банкаў забаронена адначасова займаць кіруючыя пасады і проста працаваць у іншых арганізацыях, на прадпрыемствах і ва ўстановах, незалежна ад форм уласнасці. Неабходнасць гэтага змянення выклікана тым, што ў ходзе праверак выяўлены выпадкі, калі члены праўлення банкаў самі сабе выдзяляюць крэдыты, але ўжо як кіраўнікам або прадстаўнікам камерцыйных структур.

Акрамя таго, вызначана, што без ліцэнзіі Нацбанка забаронена ажыццяўленне некаторых відаў банкаўскіх апрацый. У прыватнасці, прыцягваць сродкі на ўклады і дэпазіты, весці разліковa-касавае абслугоўванне кліентуры, інкасацыю наяўных грошай і перавозку каштоўнасцей, праводзіць валютныя аперацыі. Аднак дэпутаты адмовіліся даць "дабро" прапанове Нацбанка аб кантролі за сістэмай аплаты працы ў работнікаў камерцыйных банкаў. Па іх рашэнню зарплату супрацоўнікаў будзе рэгуляваць кіраўніцтва саміх банкаў.

*БЕЛІНФАРМ.*

## І КЛАСІКА, І СУЧАСНАСЦЬ

У Мінску адбыўся агляд калектываў мастацкай самадзейнасці абласнога праўлення Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. У ім прынялі ўдзел больш за 10 аматарскіх калектываў. З Пухавіцкага раёна выступіў жаночы фальклорны ансамбль. Лепшай спявачкай прызнана Галіна Радзюк. У яе выкананні хораша прагучалі песня "Гуляю я" і прыпеўкі на мясцовыя тэмы. Лаўрэатам конкурсу стаў прадстаўнік Мядзельшчыны, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Адольф Міхайлавіч Шылько. Ён пакарыў гледачоў ігрой на губным гармоніку. Самабытную праграму прывезла на конкурс Чэрвеньская пярвічная арганізацыя інвалідаў. Лепшым прызнана выступленне сямейнага ансамбля — гарманіста Пятра Іванавіча Гамезы і салісткі, яго жонкі Зінаіды Дзмітрыеўны.

На новы ўзровень падняліся ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Барысаўшчыны. Прафесійна прагучалі беларускія народныя песні "Мае вочы чорныя" /салістка Марыя Ярома/, "Кавалёк" /салістка Галіна Хоміч/, "Калода" /салістка Алена Бараноўская/.

Удала прадэманстравалі свае здольнасці самадзейныя артысты Фрунзенскага, Маскоўскага і Цэнтральнага раёнаў. Адзначана добрая рэжысура канцэртнай праграмы Савецкага раёна. Інвалід па зроку Ніна Сакалова піша пяшчотныя і шчырыя вершы, сама кладзе іх на музыку. Песню "Успамін" на яе словы і музыку ў выкананні Галіны Бурняшевай члены журы ацанілі самым высокім балам.

Дарэчы, на конкурсе прагучала і шмат класічных твораў.

У заключным канцэрце прынялі ўдзел больш за 200 аматараў сцэны. Агляд паказаў павышэнне ролі мастацкай самадзейнасці ў эстэтычным выхаванні інвалідаў, рост іх выканальніцкага майстэрства. Паявіліся новыя цікавыя калектывы.

*Генадзь ЯФРЭМАЎ,*
*вядучы метадыст абласнога цэнтра народнай творчасці.*

*Міхаіл Сямёнавіч **АСТАПАЎ** 35 гадоў працуе вадзіцелем Беларускага аўтамабільнага завода. Ён — ветэран прадпрыемства, настаўнік моладзі.*

Фота М.ЛУШЧЫКА.

## ІХ ЗНІТАВАЛА ТВОРЧАСЦЬ

Дзейнасць мастака Янкі Рманоўскага самым непасрэдным чынам звязана з жыццём і творчасцю Купалы. І не толькі таму, што ён даводзіўся пляменнікам беларускаму песняру — Раманоўскі стварыў шэраг выдатных партрэтаў Купалы, яго родных, блізкіх, знаёмых. Ілюстраваў паэмы "Бандароўна", "Магіла льва", "Тарасова доля".

Днямі ў Літаратурным музеі паэта адбылася рэтраспектыўная выстава творчасці Раманоўскага, прысвечаная памяці мастака. Выставу наведалі вядомыя беларускія пісьменнікі, дзеячы культуры. Яны адзначалі, што палотны Раманоўскага — адметны ўклад не толькі ў творчую спадчыну Купалы, але і ў нацыянальнае адраджэнне наогул.

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

## ЗБЯДНЕННЕ ПАГРАЖАЕ САЦЫЯЛЬНЫМ ВЫБУХАМ

— З выкананнем праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі рэспублікі з крызісу паўтараецца ўжо знаёмая па дзеяннях ранейшага ўрада сітуацыя — рэалізавана ў агавораны тэрмін толькі тое, што ляжыць на паверхні, — заявіў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Нацыянальным прэс-цэнтры. — Так, з 80 мерапрыемстваў, што павінны быць рэалізаваны да 1 лістапада, ажыццёўлены толькі 37. Прычым такія, што забяспечваюцца за кошт кішэняў насельніцтва: свабодныя цэны, падаражанне транспарту і паслуг, плата за жыллё...

Прафсаюзны лідэр асабліва падкрэсліў, што іншыя рашэнні ўлад, прымаемыя ў мэтах выканання праграмы, супярэчаць дзеючаму заканадаўству, Канстытуцыі Беларусі, нормам міжнароднага права. Гэта адносіцца, у прыватнасці, да ўказа прэзідэнта за №135, згодна з якім для прадпрыемстваў, што маюць запазычанасць у бюджэт і за энерганосьбіты, выплата заработку абмяжоўваецца *5* мінімальнымі зарплатамі ў разліку на аднаго работніка. Працаўнікі такіх прадпрыемстваў па сутнасці пазбаўляюцца асноўнай крыніцы даходу.

Журналістам былі названы лічбы, якія паказваюць, што сёння палавіна працуючага насельніцтва краіны атрымлівае за сваю працу менш за ўстаноўлены мінімальны спажывецкі бюджэт. Вось чаму прафсаюзы лічаць, што самае важнае пытанне бягучага моманту — як перайсці да рэальнай, а не сімвалічнай платы за выкананую працу. Наконт гэтага ФПБ унесла канкрэтныя прапановы ў Кабінет Міністраў.

Акрамя таго, Савет ФПБ прапанаваў ідэю правядзення ў бліжэйшы час грамадска-палітычнага "круглага стала" з удзелам прэзідэнта, урада, аб"яднанняў наймальнікаў, прафсаюзаў і партый, на якім былі б прааналізаваны першыя вынікі выканання антыкрызіснай праграмы, праведзена яе карэкціроўка.

Сёння няпэўнасць становішча многіх гаспадарчых кіраўнікоў у сувязі з перазаключэннем кантрактаў, запазычанасць вёсцы за пастаўленую прадукцыю, жорсткі манетарны прэсінг і звязаная з ім недастатковая крэдытная падтрымка жыццяздольных галін і вытворчасцей, адзначыў У.Ганчарык, прыводзяць да спынення прадпрыемстваў, росту беспрацоўя, працоўных канфліктаў. Напружанасць у грамадстве ўзмацняецца. Прафсаюзы лічаць, што сітуацыя набліжаецца да крытычнай. Пазбегнуць сацыяльных узрушэнняў можна, як прапануе ФПБ, узважаным падыходам да абмежавання інфляцыі, ліквідацыяй перашкод для развіцця вытворчасці і прадпрымальніцтва, забеспячэннем росту даходаў працоўных у адпаведнасці з ростам цэн.

На прэс-канферэнцыі было заяўлена, што У.Ганчарык падпісаўся толькі пад тымі палажэннямі праграмы выхаду рэспублікі з крызісу, выкананне якіх дало б магчымасць людзям паверыць у перамены да лепшага ў іх жыцці. Але менавіта гэтыя пункты і не выконваюцца. І калі да снежня праграма скарэкціравана не будзе, то прафсаюзы гатовы перайсці да актыўных масавых дзеянняў па абароне працоўных і сацыяльна-эканамічных правоў і інтарэсаў людзей.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ШТО БАРЫСАЎ, ШТО ПАЛЕРМА

Вяртаючыся дадому, яўна не чакаў барысаўчанін К., што ва ўласнай кватэры яго сустрэнуць жонка і... яе палюбоўнік. І тым больш не мог уявіць небарака, што гэтае вяртанне дадому стане для яго апошнім у жыцці і што давядзецца яму ляцець з дзевятага паверха на дах магазіна-прыбудовы. А саўдзельніцай забойства стала яго "родная" жонка.

Яшчэ адно забойства было ўчынена ў мінулым месяцы на працягу аднаго тыдня тут жа, на вуліцы Ватуціна. А ўсяго за дзесяць месяцаў бягучага года ў горадзе на Бярэзіне ўчынена дзесяць забойстваў — на два больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Агульная ж колькасць злачынстваў у параўнанні з леташнім узрасла на *5,5* працэнта, у той час як па вобласці і рэспубліцы рост склаў каля 15 працэнтаў.

Гэтыя і некаторыя іншыя лічбы і факты прывёў у час чарговай сустрэчы з прадстаўнікамі мясцовых сродкаў масавай інфармацыі начальнік Барысаўскага гарадскога аддзела ўнутраных спраў палкоўнік міліцыі Анатоль Шыбалка. Начальнік гарадской міліцыі, яго намеснікі прааналізавалі крымінагенную абстаноўку ў горадзе, расказалі аб канкрэтных мерах па яе паляпшэнню, засяродзілі ўвагу журналістаў на тых праблемах, што перашкаджаюць рабоце.

Да ўласнага карэспандэнта абласной газеты работнікі гараддзела міліцыі звярнуліся з просьбай праз друкаваны орган абласнога Савета нагадаць кіраўніцтву ДЭУ-60 аб абавязках па абслугоўванню вуліцы Гагарына, якая з"яўляецца часткай аўтамагістралі Мінск — Масква, бо дарожнікі самаўхіліліся як ад рамонту вуліцы, так і разметкі яе праезнай часткі. А ў выніку на дарозе можа ўзнікнуць аварыйная абстаноўка, небяспека дарожна-транспартных здарэнняў.

Хочацца спадзявацца, што дарожнікі пачуюць трывожны голас работнікаў барысаўскай міліцыі і зробяць усё, што ад іх залежыць.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*



## НЕ ДА ЛЁГКАЙ ПАРЫ

Шэраг гаспадарак Барысаўскага раёна не маюць грамадскіх лазняў. Усяго іх у мясцовых вёсках 24, і па гэтаму паказчыку раён займае апошняе месца ў вобласці. Пачата і «замарожана» будаўніцтва лазняў у калгасах імя Кутузава (в.Касцюкі) і «Мётча» (в.Жыцькава).

Намеснік старшыні райвыканкома А.А.Кіцель на пытанне, чаму склалася такое становішча з лазнямі, адказаў адназначна: «Бюджэты гаспадарак не дазваляюць укладваць сродкі ў пашырэнне сацыяльнай сферы. Часам няма грошай, каб купіць два лісты шыферу».

Дык калі ж вяскоўцы з Барысаўскага раёна змогуць памыцца ў грамадскіх лазнях, павіншаваць адзін аднаго з лёгкай парай?

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*

## В ЧЕСТЬ "СТАРЕЙШИНЫ"

110 лет назад в деревне Миколаевщина Столбцовского района Минской области родился Язэп Лёсик — известный языковед и писатель. Он принимал активное участие в становлении Белорусской Народной Республики, входил в состав ее Рады. Им были написаны первые в советское время учебники белорусского языка. Отделение гуманитарных наук Академии наук Беларуси провело научную конференцию, посвященную юбилею Я.Лёсика — академика АН Беларуси самого первого ее созыва /1928 год/.

## ГАЗ ИЗ ОТХОДОВ

В Беларуси, в ближнем и дальнем зарубежье известна солигорская научно-производственная и коммерческая фирма "Грейп". Эта многопрофильная фирма главным образом занимается разработками автоматизированных систем управления для горнодобывающей промышленности. Не остаются без внимания и вопросы экологии. Фирма работает над решением одной из экологических проблем — проектированием и производством биогазовых установок для переработки отходов животноводства. Установки позволяют получить экологически чистые удобрения и газ для бытового и промышленного использования.

*Вячеслав ИЩЕНКО.*



*НАДВОР"Е*

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае надвор"е, месцамі ападкі, слабы галалёд. Тэмпература паветра — мінус 4 — плюс 1, у Мінску — 0 — 2 градусы марозу.*

**Рэха вогненнай бяды**

### ЛАСУНАК ДЛЯ «ЧЫРВОНАГА ПЕЎНЯ»

Пажар узнік у памяшканні цялятніка калгаса "Іскра" Лагойскага раёна. Агонь заўважылі жывёлаводы гаспадаркі. Людзі не разгубіліся. Калгаснікі ратавалі жывёлу, таму і страты невялікія. Як адзначылі спецыялісты пажарнай службы, загаранне адбылося ад неасцярожнага абыходжання з агнём аднаго з работнікаў фермы. Цыгарэта, кінутая ў тамбуры, дзе знаходзіліся грубыя кармы, зрабіла сваю справу. Гэта ўжо не першы выпадак, калі "чырвоны певень" знаходзіць для сябе ласунак на жывёлагадоўчых фермах некаторых калгасаў і саўгасаў.

### ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ НА ПАСЕЦЫ

Усё пачалося з-за таго, што нейкі зламыснік падпаліў пасеку ва ўрочышчы "Лань" Клецкага раёна. У трох месцах загарэўся тарфянік. Старшыня калгаса "Прагрэс" Аляксандр Іосіфавіч Дылеўскі без прамаруджання накіраваў да месца здарэння дзве пажарныя машыны і сельскагаспадарчую тэхніку, прыстасаваную для тушэння пажару. Барацьбу з агнём узначаліў камандзір калгаснай пажарнай дружыны Канстанцін Грамыка. Пад яго кіраўніцтвам зладжана працавалі калгаснікі. Яны ліквідавалі ўсе ачагі загаранняў, каб у наступным годзе на ўрадлівай глебе быў сабраны добры ўраджай.

### ЗАГАННАЯ ПРАКТЫКА

Жыхарка вёскі Косіна Лагойскага раёна У.Ю.Сіняўская не раз бачыла, як мясцовы слесар рабіў замену газавага балона. На гэты раз жанчына не дачакалася спецыяліста і вырашыла сама зрабіць нескладаную аперацыю. Яна адкруціла вентыль, устанавіла новы балон. Заставалася праверыць уцечку блакітнага паліва. На жаль, пенсіянерка не звярнула ўвагі на тое, што побач знаходзіўся адпрацаваны балон з адкрытым вентылем. Памяшканне напоўнілася газам. Толькі чыркнула запалкай — і ўспыхнула полымя. Моцныя апёкі атрымалі гаспадыня і гаспадар, абое знаходзяцца на лячэнні ў раённай бальніцы.

Як бачым, заганная практыка — з дапамогай агню правяраць уцечку блакітнага паліва — да дабра не прыводзіць.

### ЗАСТАЛОСЯ ПАПЯЛІШЧА

Чатыры пажарныя машыны былі накіраваны ў вёску Нарач Вілейскага раёна. У калгасе "XXI з"езд КПСС" успыхнула сховішча з грубымі кармамі. Пажар ліквідавалі, не пашкоджана і памяшканне. Аднак каля 70 тон сена недалічыліся ў гаспадарцы. Прычына здарэння: трактар-пагрузчык не быў абсталяваны іскрагасільнікам. Маленькая дробязь, ды бяда вялікая.

Дашчэнту знішчыла полымя склад кармоў, дзе знаходзілася звыш 100 тон сена першага ўкосу ў калгасе "Парыжская камуна" Смалявіцкага раёна. Шкада працы паляводаў і механізатараў, якія шчыравалі ўлетку на палетках і сенажацях, каб забяспечыць жывёле сытную зімоўку.

### ПІЛЬНАСЦЬ НІКОМУ НЕ ШКОДЗІЦЬ

Вартаўнік ЦЭЦ-5 Пухавіцкага раёна У.А.Куніцкі надоўга запомніць тых людзей, што выратавалі яму жыццё. У кватэры загарэлася ежа на пліце, якую гаспадар пакінуў без нагляду. Сон змарыў чалавека, і ён не рэагаваў на небяспеку. Пажарныя вызвалілі яго з пасткі, а потым сваё слова сказалі медыкі.

Ноччу ўзнік пажар у доме аператара машыннага даення калгаса імя Кірава гэтага ж раёна. Чалавек загінуў у агні. Бацька толькі даведаўся, што ў яго нарадзілася дзіця... І сын ніколі не спазнае бацькавай пяшчоты.

Вядзецца следства, высвятляецца прычына пажару.

З пачатку года ў раёне агонь забраў жыцці чатырох чалавек, у мінулым годзе загінулі сем жыхароў.

### ЗАПАЛІЛА Ў ПЕЧЫ БАБУЛЯ

У вёсцы Ратынцы Валожынскага раёна загарэўся дом 86-гадовай А.Я.Вялічка. Аднавяскоўцы выклікалі пажарных, якія не далі агню перакінуцца на іншыя пабудовы.

Прычыну пажару назвала сама гаспадыня. Справа ў тым, што ў печы доўга не загараліся дровы. А з дапамогай саляркі яны ўспыхнулі быццам порах. Рэшткі паліва трапілі на падлогу — і агонь пайшоў гуляць па ўсёй хаце.

*Фёдар САГАНОВІЧ.*

**За 10 месяцаў бягучага года зарэгістравана 2.736 пажараў на аб"ектах народнай гаспадаркі і ў жылым сектары вобласці. У агні загінулі 95 чалавек, матэрыяльныя страты складаюць каля трох мільярдаў рублёў. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 8,7 працэнта павялічылася колькасць пажараў у сельскай мясцовасці. "Чырвоны певень" 43 разы наведваў жывёлагадоўчыя памяшканні, згарэла звыш дзвюх тысяч тон кармоў. Па-ранейшаму ў статыстыцы прычын пажараў на першым месцы неасцярожнае абыходжанне з агнём.**

**АПК і рынак**

# НЕ ЦЯГНЕ СТРЫНОЖАНЫ КОНЬ. ЦЯРПЛІВА ЧАКАЕ САПРАЎДНАЙ СВАБОДЫ


І.К.Галко


А.У.Юнцэвіч

*Як паведамлялася ўжо, калектыў "Мінскай праўды" меў сустрэчу з аўтарамі Канцэпцыі развіцця вёскі, якая друкавалася ў трох нумарах газеты ў другой палавіне верасня. А.У.Юнцэвіч — старшыня калгаса "Чырвоны Кастрычнік" Стаўбцоўскага раёна, У.П.Лысы — старшыня калгаса імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна, М.І.Рубель — старшыня калгаса "Новы свет" Капыльскага раёна, а таксама доктар філасофскіх навук, прафесар І.К.Галко расказалі журналістам пра тое, што найбольш хвалюе іх у гэты неверагодна цяжкі час, калі народная гаспадарка рэспублікі практычна поўнасцю паралізавана, падзяліліся ўражаннямі ад наведвання развітых краін Еўропы і Амерыкі, дзе вывучаліся шляхі і метады вядзення сельскагаспадарчай вытворчасці.*

*Канкрэтызуючы і паглыбляючы асобныя палажэнні Канцэпцыі, аўтары на прыкладах з жыцця і дзейнасці сваіх гаспадарак, падмацоўваючы вывады замежным вопытам, раскрылі шляхі выхаду АПК рэспублікі з развалу. Яны пераканалі, што паварот да стабілізацыі практычна ўсяго народнагаспадарчага комплексу Беларусі можа быць дасягнуты менавіта праз стабілізацыю і ўздым буйной, высокамеханізаванай сельскагаспадарчай вытворчасці. Як першы крок да гэтага, патрэбны заканадаўчыя акты, якіх чакае сялянства ад Вярхоўнага Савета рэспублікі, каб спакойна і прадукцыйна гаспадарыць на зямлі, нармальна карміць народ Беларусі, мець прадукцыю для знешняга гандлю, бо менавіта нашы сыры, масла, мясапрадукты і іншыя вырабы, нягледзячы на чарнобыльскую аварыю, на сусветным рынку каціруюцца вышэй, чым заходнееўрапейскія, за сваю натуральнасць.*

*Сёння прапануем чытачу матэрыялы гутаркі.*


У.П.Лысы


М.І.Рубель

**М.А.Шлома:** — Я рады вітаць нашых шаноўных гасцей у рэдакцыі. Прыемна, што, нягледзячы на сваю занятасць, яны знайшлі час і прыехалі да нас. Тэма размовы, вядома, будзе датычыцца лёсу калгасаў, Канцэпцыі развіцця вёскі. Словам, хочацца пачуць ад вас, паважаныя госці, пра ўсё тое, што можа пашырыць наш кругагляд па самай актуальнай на сённяшні дзень праблеме ў рэспубліцы — аб шляхах перабудовы і развіцця аграпрамысловага комплексу.

Калі ласка.

## ПАТРЭБНА ШЧЫРАЕ СЛОВА

**І.К.Галко:** — Апублікаваная ў газеце Канцэпцыя развіцця вёскі — гэта даследаванні 1991—1994 гадоў. Хваліцца не хачу, але работа выканана немалая. Гэта — вынік апытання людзей у многіх гаспадарках, вынік сустрэч, гутарак і, трэба сказаць, нашых аўтарскіх спрэчак. Мы сустракаліся, раіліся, абмяркоўвалі і тады, калі матэрыялы ішлі ў друк.

Некалькі слоў пра іх тон. Сварыцца з нашымі апанентамі няма патрэбы. Важна даказаць, давесці думку людзей да таго, хто павінен яе ўлічваць.

У гэтай сувязі не магу не звярнуцца да нарады аграрнікаў, якая адбылася нядаўна. Знаходзячыся ў зале, яшчэ раз можна было пераканацца, што Канцэпцыя патрэбна, бо ў думках і меркаваннях адносна таго, куды і як развівацца аграпрамысловаму комплексу, няма адзінства. Але горш за ўсё тое, што на нарадзе выявілася абыякавасць многіх кіраўнікоў да лёсу АПК. Слухалі мы там Шарэцкага і Новікава, і, ведаеце, я застаўся незадаволены: хацелася падняцца і пайсці з залы. Калі будзем з гэткім аналізам рэчаіснасці ісці на новыя выбары, то не набяром нават столькі галасоў, колькі набралі на прэзідэнцкіх.

Што трэба? На мой погляд, ужо сёння неабходна ведаць, каго мы будзем называць кандыдатамі ў дэпутаты. Кіраўнікі гаспадарак, якія тут прысутнічаюць, мабыць, могуць быць вылучаны імі. Разам з тым трэба вызначыць сацыяльныя слаі насельніцтва, на якія будзем выходзіць, чые галасы могуць быць аддадзены аграрнікам.

**Хачу заўважыць: паявіўся бедны спажывец. На другі дзень вечарам я яшчэ раз паглядзеў перадачу пра сход аграрнікаў. Дубко ні слова не сказаў пра садоўніцкія таварыствы. А якую ролю можа адыграць Аграрная партыя ў жыцці гэтага сацыяльнага слою? Яго не апякае ні горад, ні Міністэрства сельскай гаспадаркі, ні Саветы — ніхто. Калгасы прадаюць дачнікам гной, аказваюць іншую дапамогу, і людзі гэтыя кормяцца на зямлі. Дык ці можна іх абмінаць Аграрнай партыі? Можа, нават паспачуваць ім — і то важна.**

Возьмем наступны сацыяльны пласт насельніцтва: сваякі ўладальнікаў падсобных сельскіх гаспадарак, якія жывуць у горадзе. 40 працэнтаў уладальнікаў гэтых гаспадарак аказваюць дапамогу сваім родным, якія жывуць у горадзе. Дык калі ў час перадвыбарнай кампаніі звярнуцца да гледача, які сядзіць перад тэлевізарам, з добрым словам, то ён напэўна скажа: "Гэта мой кандыдат", і мы ў горадзе збяром галасы. Бяда ў тым, што ў Дубко не знайшлося патрэбнага слова для гэтых людзей.

Падрыхтоўкай да прэзідэнцкіх выбараў кіраваў ён, а што атрымалася? Немалая віна і Шарэцкага ў тым, што не было выхаду на сацыяльныя пласты, якія маглі пайсці за аграрнікамі.

**І яшчэ важны момант. У нас спрыяльная глеба для агітацыі. Набліжаецца найвялікшае свята — 50-годдзе Перамогі над фашысцкай Германіяй. Заўважце цікавае змяненне ў свядомасці людзей. Калі толькі пачалася "перабудова", у дзень свята 9 Мая ніхто асабліва не імкнуўся ў Мінску на праспект. Сёлета ж на 9 Мая тут было столькі людзей, што не прайсці.**

Сёння нам падкідваюць лозунг: маўляў, і паліцай, і савецкі воін аднолькава пралівалі кроў. Дык вось якая цяпер на такія ідэі рэакцыя. Тры гады назад студэнты, з якімі працую, пра гэта гаварылі з пафасам, а сёння маўчаць. І далей. Бальшавікі ішлі да ўлады — толькі лозунгі былі, а ў нас не толькі лозунгі. Пры ўсіх недахопах, што былі ў 70—80-я гады, цяпер 9 з 10 скажуць, што тады жылося ўсё-такі значна лепш, чым сёння. Матэрыяльна. Бо перабудовачная эйфарыя мінула ўжо. Значыць, трэба больш настойліва брацца за работу. Сход садаводаў, напрыклад, быў бы дарэчы. Можа, хоць бы паспачуваць людзям — і то будзе добра. Гэта разнясецца хутка.

**М.А.Шлома:** — Напярэдадні расійскіх выбараў у Думу ў Маскве жаніўся адзін лэйтэнант. Ён разаслаў запрашэнні на вяселле Ельцыну, Гарбачову, Жырыноўскаму, іншым палітыкам. Ніхто не з"явіўся. Прыехаў толькі Жырыноўскі. Ноч гуляў на вяселлі, гутарыў з людзьмі. Вынік: большая палавіна выбаршчыкаў у тым раёне прагаласавала за яго.

**І.К.Галко:** — Вось бачыце, гэта лішні раз пацвярджае, наколькі важна асабіста сустрэцца з людзьмі.

Нарэшце, хацелася б падзякаваць кіраўніцтву рэдакцыі, калектыву журналістаў за тое, што падрыхтавалі і апублікавалі матэрыялы Канцэпцыі.

**М.А.Шлома:** — Мяркую, што мы сабраліся не дзеля пахвальбы ў адрас адзін аднаго. Мы аднадумцы. Гэта відаць па газеце. Мы нікога не абліваем граззю, імкнёмся трымаць роўны, як кажуць, узважаны курс. Разумеем: надыходзіць перадвыбарная кампанія, і тут усім трэба вызначыцца. Са свайго боку будзем імкнуцца несці людзям праз газету тыя думкі і ідэі, якія вядуць нашу эканоміку і народ не да канчатковага развалу, а да стваральнай працы.

Ну а цяпер, Антон Уладзіміравіч, вам слова. Што будзем рабіць з калгасамі?

## КАЛГАСЫ ЗНОЙДУЦЬ ДАРОГУ САМІ

**А.У.Юнцэвіч:** — Што будзем рабіць з калгасамі?.. Калі ставяць так пытанне, мяне, прызнаюся, яно некалькі бянтэжыць. Я лічу, што з калгасамі нічога не трэба рабіць. Яны самі сабе знойдуць канчатковае афармленне, якое будзе адпавядаць жаданням сялянства і патрабаванням часу.

Быў я неяк на Брэстчыне ў калгасе "Астрамечава". Цяпер гэта — калектыўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства "Астрамечава". Або возьмем такое ж прадпрыемства "Прагрэс" на Гродзеншчыне. Абедзве гаспадаркі добрыя. Што ж там змянілася за апошні час менавіта ў арганізацыйным плане? Нічога. Іншая толькі шыльда на канторы. Замест слова "калгас" напісалі "сельскагаспадарчае прадпрыемства".

Летась мне давялося сустрэцца з многімі амерыканцамі — фермерамі, прадпрымальнікамі. Шмат іх было ў калгасе. Прыязджаюць з фотаапаратамі, кінакамерамі. Шмат здымаюць.

У нас звычайная, радавая гаспадарка. Аднак з 1988 года праз калгас прайшло больш за 7 тысяч чалавек замежных гасцей. Дык вось, адзін такі госць і кажа: "Цябе, Антон, цяпер ведае ўся Амерыка". Аказваецца, шмат яго калег маюць кінастужкі і здымкі, дзе адлюстравана жыццё нашай гаспадаркі.

**Усё, што мае калгас, рабілі самі: узводзілі будынкі, пракладвалі дарогі. Амерыканцы са здзіўленнем гавораць: "Мы зусім не разумеем, чаму ў вашай краіне нейкі ажыятаж супраць калгасаў". Яны лічаць, што трэба ўзбуйняць дробныя гаспадаркі, паглыбляць канцэнтрацыю і спецыялізацыю вытворчасці. "Вашы калгасы, — кажуць яны, — з"яўляюцца прыкладам для пераймання. Вось толькі шкада, што дзяржава не праяўляе належнай увагі да іх". А яно ж так і ёсць. Вы глядзіце, якая ў нас аказваецца дапамога гаспадарам — недзе ў межах 10—14 працэнтаў.**

**І.М.Абабурка:** — Паводле даных, якія прыводзіць дырэктар Беларускага НДІ эканомікі і інфармацыі АПК У.Гусакоў, выступаючы ў газеце "Белорусская нива" /№ 177 за г.г./, у апошні час гэтыя сродкі ў нас складаюць толькі 7—8 працэнтаў. Аднак, падкрэслівае У.Гусакоў, у расходнай частцы дзяржаўнага бюджэту сродкі, якія выдзяляюцца на падтрыманне і развіццё сельскай гаспадаркі, павінны складаць не менш як 20—25 працэнтаў у год, а даходы сельскагаспадарчых прадпрыемстваў на 60—70 працэнтаў павінны фарміравацца за кошт дзяржаўных субсідый.

**А.У.Юнцэвіч:** — Пры гэтым паглядзіце — дапамога выдаецца як нейкая датацыя. Дэпутаты пастаянна ўзнімаюць пытанне, а разам з імі і вядомы Лугін, гавораць, што, маўляў, даём як у бяздонную бочку, а вынікаў — ніякіх. А гэта ж не так. Калгасы маюць добрую матэрыяльную базу, якую стварылі, калі была магчымасць атрымліваць даходы. Значыць, яны могуць працаваць рэнтабельна, калі ёсць хоць крыху спрыяльныя ўмовы. Замежныя госці гавораць: "Вам дзяржава не аказвае той дапамогі, якую аказваюць нашы ўрады нам". І падкрэсліваюць: "У вас няма належнай заканадаўчай базы, каб сельская гаспадарка магла нармальна працаваць. І асабліва цяжка кіраўнікам і спецыялістам". Яно і сапраўды так. Гэтыя кадры ў нас ніяк не абаронены. Іх можа трэціраваць любы нягоднік. Ён можа, праба-чце, і ў морду заехаць. І нікому не паскардзішся, нідзе не знойдзеш праўды.

**Калі быў у Амерыцы, давялося наведваць розныя фермерскія гаспадаркі. Буйныя і дробныя. Павінен сказаць: жывуць фермеры нялёгка, складана. Вось быў у аднаго па імені Джон. У яго 200 гектараў зямлі, 200 кароў. Тэхнікі дастаткова. Улетку прыязджае дапамагаць сын. У час "пік" наймае работніка. Мы, госці, там даілі і кармілі жывёлу. Ён быў страшна здзіўлены, калі ўбачыў, што я падаіў карову. Так, як робіцца ў іх: падвязаў зэдлік, падмыў вымя. У іх на спецыяльнай цялежцы ёсць усё — падаецца вада, ёсць чым абцерці вымя. Калі маю работу ўбачыў фермер, сказаў: "Ніколі не думаў, што старшыні калгасаў умеюць даіць кароў, бо нам гаварылі, што кіраўнікі савецкіх гаспадарак увогуле нічога не ўмеюць рабіць. Толькі гарэлку п"юць. А тут — на табе".**

Я яму прапанаваў: "Прыязджай да мяне на тыдзень-другі. З жонкай. Білет купіш сам, а абслугоўванне бяру на сябе". Ён падзякаваў і кажа: "Не магу, Антон. Улетку ніхто мяне не заменіць... Высокая каштоўнасць вашай сістэмы гаспадарання ў тым і заключаецца, што ты ў ліпені можаш дазволіць сабе паехаць кудысьці і не баішся, што ў цябе стане справа. Я ж магу прыехаць толькі зімой... На пенсію пайду, калі споўніцца 65 гадоў, і на маё месца на гэтую ферму прыедзе сын. Калісьці тут жылі і працавалі мае бацькі, іх замяніў я. Памерлі ўжо. Сыну, каб стаць фермерам, неабходна здаць спецыяльныя экзамены. Даволі складаныя. Толькі пасля гэтага ён прыме ферму і пераедзе сюды, а мы паедзем туды, дзе ён жыве". Вось так у іх ідзе змена пакаленняў.

Дзяржава вельмі ўважліва сочыць за тым, як ідуць справы ў фермера. Калі ферма не развіваецца, яна можа быць перададзена іншаму гаспадару.

Быў на розных фермах. Ёсць вельмі прыгожыя, чысціня вакол. Ёсць сярэднія. А ёсць такія брудныя, што не ўлезці.

**Хачу заўважыць, што ўсё абсталяванне — з нержавеючай сталі. Гэта і прыгожа, і выгадна. На фермах ёсць камп"ютэры. Збыт прадукцыі, сервіс — на высокім узроўні.**

**Вось прыехалі на адну ферму. Гаспадар мае 2.500 гектараў ворыва, займаецца вырошчваннем збожжа. І толькі. На ферме працуе каля 20 чалавек. Прыехалі на суседнюю. Займаецца гадоўляй свіней. Працуюць 4 чалавекі. Свінарнік веернага тыпу. Утрыманне жывёлы дробнагрупавое. Сухі тып кармлення — камбікорм і вада. Купляюць збожжа ў таго фермера, які яго вырошчвае, — пшаніцу, сою, кукурузу. Тут жа ўсё ў адпаведных дозах змешваецца, уносяцца дабаўкі.**

**Калі закончылі абход фермы, гаспадар кажа: "А цяпер зайдзіце ў дом, там у халадзільніку ёсць каньяк, піва, іншыя напіткі. Ёсць чым закусіць. Калі ласка, выпіце і закусіце, а я не магу — работа". Такі ў іх падыход...**

Быў у Швецыі. І там амаль тое ж самае. Таму паўтаруся: калгасы — маю на ўвазе людзей, якія там працуюць, — самі знойдуць патрэбную форму гаспадарання. Дарэчы, цяпер, нягледзячы на эканамічны разлад, у нас палепшылася працоўная дысцыпліна. А гэта, думаю, сведчыць аб тым, што калектыўная гаспадарка мае перспектыву. Таму людзям не трэба перашкаджаць, не трэба тузаць іх з боку ў бок.

Нарэшце, хацелася б пажадаць калектыву рэдакцыі далейшых поспехаў у працы. Імкніцеся падтрымліваць цесныя сувязі з гаспадаркамі, раённымі і іншымі аграрнымі структурамі. Каб растлумачыць нашаму народу курс Аграрнай партыі, растлумачыць усім, што без вырашэння аграрных праблем нельга вырашыць іншыя — у цяжкай і лёгкай прамысловасці, будаўніцтве, на транспарце. Хацелася б, каб газета больш пісала пра нялёгкую працу спецыялістаў, кіраўнікоў гаспадарак. Прыязджайце да нас, пажывіце, пахадзіце, вось тады ўбачыце і добрае, і дрэннае.

## ВЫТВОРЧАМУ ПАТЭНЦЫЯЛУ — ТЭХНІЧНЫ ПРАГРЭС

**У.П.Лысы: — Тры гады назад, калі пачалася цяперашняя "перабудова", мы сталі шукаць новыя формы гаспадарання, каб неяк ускалыхнуць народ. Разлічылі кожнаму грашовую долю асноўных фондаў. Калгас стаў фактычна акцыянерным таварыствам. Аднак на справе так і застаўся калгасам. А, між іншым, вялікай прапаганды ўсё гэта запатрабавала. У кожным калектыве гутарылі, тлумачылі, што вось будзе твая доля, што кожны павінен хварэць за вытворчасць, берагчы наяўную маёмасць... І пасля таго як гэта ажыццявілі, я сабраўся з духам, і калгаснікам налічылі дывідэнды. Каб людзей неяк падштурхнуць да паляпшэння працоўнай дысцыпліны, зберажэння маёмасці. І які вы думаеце вынік атрымаўся? Для мяне ён быў ашаламляльны. Калі ў папярэднім месяцы была выпрацоўка 20—25 дзён на работніка, то на наступны, пасля выплаты дывідэндаў, яна склала 19. І я прыйшоў да вываду, што гэта, напэўна, не дапаможа калгасніку адчуць, што ўсё наўкол — не чыё-небудзь, а менавіта яго.**

А людзей трэба падняць на работу. Гэта няпроста. Трэба хаця б берагчы тое, што маем, — матэрыяльную базу. А то маторы ўжо разбіраюць. Іх, праўда, усюды разбіраюць. Фактараў, якія садзейнічаюць гэтаму, шмат. Першы — беднасць. Можа, гэта другі, а першы — недахопы выхавання, калі бракуе ўнутранага разумення адказнасці, адсутнічае пачуццё гармоніі з навакольным асяроддзем. Але ж некалькі гадоў назад маркоўку і капусту так, як цяпер, не кралі.

У нас няправільны падыход да вёскі ў цэлым. Возьмем фарміраванне цаны на нашу прадукцыю. На заводзе яна складваецца так: затраты, кошт матэрыялаў, энергіі, плюс прыбытак — усё суміруецца, і вось вам цана. Такога падыходу да цаны на сельскагаспадарчую прадукцыю ніколі не было. А ў калгасах ніхто не цікавіўся, асабліва ў апошнія гады, з чаго складваецца наша цана.

**Каб нам атрымаць прыбытак у цяперашніх умовах, трэба падняць цану ў 2,5 раза. У нас усё стратнае. Ялавічына і свініна - у 2 разы. І мы з гэтых страт /сорамна павінна быць дзяржаве!/ яшчэ плацім падаткі. І немалыя. А пра што можа ісці размова, аб якіх планах, калі стратная вытворчасць? Бо ў дзяржаўным маштабе ўсё так пастаўлена, каб выпампоўваць з вёскі рэсурсы за кошт розніцы цэн на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю.**

Або яшчэ красамоўны факт: мы, кіраўнікі гаспадарак, атрымалі цыркуляры /дарэчы, ужо не першы раз яны прыходзяць/, дзе напісана: "Забараніць усякае выкарыстанне касавых грошай да здачы іх у банк". Я разумею, што дзяржава хоча з кожнага рубля, атрыманага гаспадаркай, спагнаць падатак. Але ж для калгасаў, якім месяцамі прадпрыемствы не пералічваюць грошы за рэалізаваную прадукцыю, гэта яшчэ адна палка ў колы. Трэба купіць якую дробязь, а ты не можаш распараджацца ўласнымі грашыма. На кірмашы, які адбыўся ў Мінску ў канцы верасня, літаральна за два дні ўтаргавалі 10 мільёнаў. Маглі б нешта купіць. Аказваецца, не, мы — не гаспадары свайго заработку. Грошы трэба аддаць у банк, а потым атрымаць. А ў банку не заўсёды атрымаеш, таму што там то наяўнасці няма, то яшчэ якая прычына.

**У нас ёсць цяплічная гаспадарка. Вялікая плошча зямлі пад шклом. Час асенні, а як дастаць паліва на зіму — праблема з праблем. Без яго цяпліцы закрыюцца, страты будуць велізарныя, але гэта не ўсё. У нас жа пасёлак, які ацяпляецца централізаваным спосабам. Тры гады назад я ганарыўся, што маем пасёлак гарадскога тыпу. Развіта камунальная служба, да цяпла падключана 105 кватэр. А сёння, аказваецца, уся гэтая інфраструктура так ціснe на калгас, што далей немагчыма — невядома, што рабіць. Я падлічыў: каб пражыць да канца года і нармальна ацяпляць пасёлак, нам патрэбна каля 2,6 мільярда рублёў /у цэнах да дэнамінацыі/. Прадукцыі, паводле нашых падлікаў, рэалізуем мільёнаў на 600—700. І ўжо цяпер відаць, што і нашу гаспадарку запіхнулі ў глыбокую даўгавую яму.**

Маем тры цэхі па перапрацоўцы сельгассыравіны, і калі б падаткі на іх прадукцыю былі боскія, то мы, напэўна, выкараскаліся б. Але падаткі налічваюцца такія, як і на прадукцыю прамысловасці. Таму мы ўжо ў велізарных даўгах. Далей невядома, як і жыць.

Я некалькі разоў бываў у Германіі, і сваім людзям спрабую ўталкаваць: там намнога больш інтэнсіўна працуюць. Там патагонная работа, чалавеку няма калі перакурыць. З табой гутарыць і ад работы не адрываецца. Таму ж фермеру няма калі перадыхнуць. Спыніўся — значыць, адстаў і прапаў.

Вось былі мы ў аднаго прадпрымальніка. Мае невялікую вытворчасць — выпякае пячэнне. Паказвае: "Гэтая лінія ўжо дрэнная. Даводзіцца трымаць ля яе дзяўчынку-работніцу". Пячэнне ідзе патокам і, бывае, няроўна ляжыць — фасоўка не спрацоўвае. Гаспадар тлумачыць: "Заказалі новую лінію. Там будзе ўсё аўтаматызавана, гэтае рабочае месца скароцім".

Яны могуць сабе дазволіць не хвалявацца за чалавека, а толькі за свой прыбытак. Мы ж у калгасе бачым, ведаем, што варта было б скараціць, але не можам: няма сродкаў. А калі б такое грашовае "ўліванне" дзяржава зрабіла, як таму фермеру, дык у нас справа пайшла б значна лепш.

**І ў святле гэтага прывяду яшчэ прыклад. Два гады назад у штаце Мінесота заключылі з фірмай "Тэкер" дагавор на пастаўку самаходнай машыны па ўнясенню вадкіх мінеральных угнаенняў і правядзенню хімпраполак. Калгас набыў гэтую машыну. Машына каштуе 70.286 долараў. І вось сёння я ўяўляю, якая можа быць прадукцыйнасць працы ў нас, калі будзем карыстацца такімі машынамі, абнаўляць імі нашы асноўныя сродкі. Лёгкая, кампактная, з камп"ютэрам, не праедзе дзе не трэба, не паломіць ніводнай расліны, таму што на ёй ёсць радары. Шырыня захопу 24 метры. На хімпраполцы апрацоўвае 450 гектараў у змену. На камп"ютэры відаць, які расход рабочай сумесі. Вадкасць распыляецца літаральна ў выглядзе туману. У кабіне выдатныя ўмовы работы. Мы два разы апрацавалі бульбу супраць фітафторы і атрымалі 180 цэнтнераў клубняў з гектара. Рапс апрацавалі супраць кветкаеда. А з кветкаедам, ведаеце, суткі прамарудзіў — і можаш напалавіну меншы ўраджай сабраць, або ўвогуле яго не будзе. А мы механізатара ў 6 гадзін раніцы паслалі, і не паспела закончыцца планёрка, як ён далажыў, што рапс апрацаваны. У час работы ўсяго два разы заправіўся.**

Дык вось, замежныя фермеры маюць тэхніку, якая не ломіць расліны, дакладна "ведае", колькі карова дала малака і колькі ёй патрэбна канцэнтратаў, іншых кармоў. А ў нас тэхнічны прагрэс, асабліва ў апошнія гады, спыніўся.

Знаходзячыся ў Германіі, я папрасіў літаральна некалькі клубняў бульбы. Летась на агародзе пасадзіў. Ураджай у пераліку на гектар — 600 цэнтнераў. Выдатныя смакавыя якасці. Гэта ж таксама тэхнічны прагрэс.

Але ёсць там і такі прагрэс, які нам не патрэбен. Вось у Расію вязуць "куриные окорочка". Аказваецца, іх мяса вельмі нізкай якасці. Яно атрымана пры дапамозе кармоў, у якіх многа біястымулятараў. Расія ўжо адмаўляецца іх купляць.

Як атрымліваюць такую прадукцыю? Былі мы ў аднаго фермера. Гадуе свіней. Я пацікавіўся, якія ж выдаткі кармоў на кілаграм прывагі. Глянуў на прыбор ды думаю: можа, дрэнна бачу? А там стаіць 2,6 кармавой адзінкі. У той жа час сутачнае прыбаўленне жывёлы ў вазе складае 860 грамаў. Добра гэта ці дрэнна? Мы на кілаграм прыбаўлення ў вазе трацім каля 7 кармавых адзінак фуражу. Таму якасць нашага мяса вышэйшая, чым пры выкарыстанні біястымулятараў. Іншая справа, што на камбікормавым заводзе, дзе пабывалі, у камп"ютэр закладзены 141 від камбікорму. Для гэтага падаюцца 249 інгрэдыентаў. Завод, які дае 500 тон камбікорму ў суткі, абслугоўваюць 28 чалавек. А ў нас у Смалявічах на такім жа заводзе працуюць каля 300 рабочых. Вось дзе патрэбен тэхнічны прагрэс!

**Нас душыць долар. Каб набыць дэфіцытную гуму для "Кіраўца", трэба 500 долараў. Калі прапануеш "зайчыкі" — плаці па курсу. Не заплаціў — праз тры тыдні прышлюць пераразлік з прыкідкай на інфляцыю. Усе сочаць за тым, каб не прайграць. Дык, можа, і калгасу паставіць перад сабой пытанне: нашто нам стратная жывёлагадоўля? Лепш пасеем 500 гектараў збожжа, атрымаем 1.500 тон зерня. Паўтысячы тон раздадзім насельніцтву, тысячу тон прададзім і спакойна будзем жыць. Але ж ці будзе выгадна гэта дзяржаве? Вынішчым жывёлу, а потым для нарошчвання пагалоўя спатрэбяцца дзесяцігоддзі.**

Падагульняючы свае меркаванні, хачу падкрэсліць: выхад з крызісу — не ў разбурэнні вытворчага патэнцыялу калгасаў, а ў яго ўмацаванні і далейшым развіцці. А якія патрэбны формы ўласнасці — людзі разбяруцца самі лепш за палітыкаў.

## ЦАНА НІЖЭЙШАЯ ЗА САБЕКОШТ

**М.І.Рубель:** — Гаварыць шмат не ўмею, але работа, абставіны часам вымушаюць. Думаю, што ў многіх сённяшніх бедах вінаватыя перш за ўсё мы самі. У нашым руху няма сапраўднага лідэра. Я пра гэта гаварыў і сёння паўтару. Лічу, што мая віна не меншая, чым маіх калег. А, магчыма, і большая, бо не ва ўсіх такі ўзровень падрыхтоўкі, як у гэтых людзей, якія сёння перад вамі выступаюць. Талковых кіраўнікоў быццам бы многа, а вы бачылі, каб хто выступіў у прэсе з глыбока аргументаваным артыкулам ці з такой жа прамовай, выклаў усё, што думаюць земляробы, даказаў бы, як павінна развівацца гаспадарка? Тут мне бачыцца і незайздросная пазіцыя нашага міністэрства. Пытаюць: што будзе, калі я падніму цэны да ўзроўню сабекошту? Дарэчы, такая размова ў нас адбылася і з Уладзімірам Гаркуном. Мы яму даказваем, што без гэтага не можа быць развіцця вытворчасці, а ён: "Калі мы табе дазволім тую цану, якую ты просіш, то ўяўляеш, колькі будзе каштаваць цукар?.." Я кажу: "Ты гарадскому жыхару робіш дабро? Сёння ён бы заплаціў на некалькі рублёў даражэй, бо сённяшняя цана на цукар ужо нерэальная. Цану на нашы буракі ты падганяеш пад цану гэтага цукру. Але ж хіба гэта правільна? Хіба правільна, што вы пяць год трымалі нізкую цану на хлеб? У нас забіралі збожжа за бясцэнак і прадавалі хлеб за бясцэнак. Сёння ты гэта робіш з цукрам. Думаеш, што добра робіш? Кожны знайшоў бы грошай на кілаграм цукру, калі б ён каштаваў на паўтысячы рублёў даражэй. Але ў нас засталася б рэнтабельнай галіна.

Ты забраў збожжа. Але за выручаныя грошы па сённяшняму курсу мы ўжо нічога не можам купіць. Бульба больш-менш дае прыбытак. Дык яна сёлета не вырасла. Сёння буракі забіраюцца па цане ніжэйшай, чым іх сабекошт, значыць, заўтра цукру не будзе ўвогуле, бо на наступны год плошчы пад буракамі будуць скарочаны, як сёлета пад бульбай і льном. За лён адзін год не плацілі як трэба, другі год не заплацілі, а сёлета запытайце, хто сеяў гэтую культуру. Лічаныя гектары і лічаныя гаспадаркі. На Капыльшчыне плошчы скараціліся значна. І ў наступным годзе так будзе. Плошчы пад буракамі сыдуць на мізэр. Тады ўжо ўзвінцяць цэны тыя прайдзісветы, якія будуць вазіць да нас цукар. І не прададуць яго танней чым па курсу долара... А сёння ты ў нас вазьмі па курсу долара. Гавораць, што 33 цэнты кілаграм буракоў каштуе. Дык ты нам заплаці па 33 цэнты. Нават па 30 заплаці, і мы цябе завалім буракамі вышэй галавы. Дык не, у нас трэба забраць за бясцэнак, бо сёння кілаграм буракоў каштуе каля 20 цэнтаў."

**Для чаго гэта гавару? Мінуў ужо не адзін год з часу выбараў Вярхоўнага Савета рэспублікі. А што ён зрабіў для АПК? Асабліва нашы Гаркун і Мірачыцкі? Гэтыя дзве фігуры маглі нешта зрабіць у рэспубліцы. Мірачыцкага, праўда, кожны месяц знімалі з работы, і ён баяўся рот адкрыць. Гаркуна не знімалі, але ён альбо не дарос да разумення праблем вёскі, альбо хутка перарос і адарваўся ад іх... Ён мог сабраць вакол сябе аграрнікаў і дамагчыся прыняцця такіх законаў, якія забяспечвалі б развіццё вёскі. Мог выступіць у абарону інтарэсаў сялянства. Тут не трэба энергарэсурсаў ці камплектуючых, якіх у Беларусі не выпускаюць. У нас усё ёсць. Фосфару мала, але ён ёсць. Гербіцыдаў мала, але іх можна купіць. За нашу ж прадукцыю. Калію — дастаткова, азотных угнаенняў — таксама. За іх можна набыць і першае, і другое, і трэцяе. Не хапае медыкаментаў, вітамінаў для лячэння жывёлы. Зноў жа за нашы азот і калій можна набыць усё неабходнае і пакрыць усе нашы патрэбнасці.**

Далей. Больш нічога ад дзяржавы нам не патрэбна. Трэба толькі, каб за нашу прадукцыю плацілі столькі, каб яна акуплялася.

А фактычна ж была ўжо спроба прымяніць да нас харчразвёрстку, калі была пастанова Савета Міністраў прадаць 7,7 цэнтнера збожжа з бала-гектара. Хто не прадасць, той будзе плаціць штраф.

Такія санкцыі не асмеліліся дыктаваць больш ні адной галіне, акрамя калгасаў. Значыць, адзін ідзе ў рынак, а другі — у каталашку.

**Цяпер і па падатках такая рабаўніцкая пазіцыя. З усіх трыбун крычалі, што вось-вось сельскай гаспадарцы будуць крэдыты, датацыі, тое і іншае... Калі я па нашай гаспадарцы падлічыў суму атрыманых датацый і надбавак на паліва, пакупку ўгнаенняў, датацыі на мяса і малако, атрымалася 176 мільёнаў. А забрала дзяржава ў выглядзе падаткаў /іх на сённяшні дзень існуе 13 відаў, у тым ліку і на беспрацоўе, хаця ў вёсцы яго няма/ амаль на тую ж суму. Розніца толькі ў некалькі тысяч рублёў.**

А нам пастаянна гавораць: "Вы прадаяце танна, але ж мы вам даём датацыю". Толькі гэтую датацыю і забіраюць назад. А ты, селянін, калгаснік, жыві як хочаш.

Дык вось, усімі гэтымі разважаннямі я хачу пацвердзіць думку, што ў пералічаных бедах мы вінаватыя самі. Іх магло б не быць, калі б наш дэпутат Уладзімір Гаркун і іншыя дэпутаты-аграрнікі стаялі за нас. Яны маглі сабрацца і даказаць з трыбуны Вярхоўнага Савета, якія трэба прыняць законы. Інакш развалім сельскую гаспадарку — важнейшую галіну рэспублікі.

Сёння мы, аграрнікі, маглі б даць столькі экспартнай прадукцыі, што не толькі ўсходні рынак з ахвотай узяў бы яе, але і заходні, бо яна больш якасная. Пяць гадоў мінула, а наш Вярхоўны Савет і Мінсельгасхарч не дадумаліся, каб даць ход нашай прадукцыі ў іншыя рэспублікі былога Саюза. Асабліва паўднёвыя. Ды і ў Прыбалтыцы мы маглі б гандляваць нашымі сырамі, маслам, бульбай. Не, загубілі, каб нічога не мець, застацца ні з чым.

**Цяпер мы нават па сабекошту не прададзім прадукцыю. І апошні прыклад. Нам кажуць, што сабекошт цукровых буракоў па вобласці 86 рублёў за кілаграм. А я пытаю: у сярэднім па рэспубліцы, па буракасеючых раёнах, які сабекошт? Ён, аказваецца, 143 рублі. А нам, нягледзячы на ўвесь наш бой, спачатку заплацілі 100, а потым 10 рублёў дабавілі. І сказалі: "Кропка! Больш і рот не адкрывайце".**

**П.Ф.Сідаровіч:** — Не прадавайце. Скарміце жывёле.

**М.І.Рубель:** — Немагчыма. У мінулыя гады мы атрымлівалі іх па 5 тысяч тон. А скарміць жывёле можам толькі 1.000 тон. Раздаць калгаснікам? Гэта таксама не выхад. Цукровыя буракі — важнейшая тэхнічная культура, і яна павінна выкарыстоўвацца па прызначэнню.

Сёння ў нас нямала палітыкаў, якія рознымі спосабамі імкнуцца разарваць сувязь паміж калгасам і калгаснікам. Тады калгас як арганізацыя страціць народную падтрымку. А калгаснік з калгасам звязаны непарыўна. Калгас пабудаваў дзіцячы сад. У сад і мэблю набыў, і цацкі, і прадукты штодзённа дае. На калгаснай машыне жанчына паехала ў раддом, на ёй вярнулася дахаты. Праз пэўны час дзіця пайшло ў сад, а потым і ў школу, якая пабудавана калгасам. І большую частку свядомага жыцця вясковец аддае калгасу. А калі становіцца пенсіянерам, то і ўвогуле без калгаса яму не абысціся. Тады і сена, і дровы, і салому дае калгас. Захварэў чалавек — калгас накіроўвае лячыцца. Прапала карова — зноў калгас прыходзіць на выручку. Ён і бульбу пасадзіць, і абгоніць яе, і дапаможа выбраць, прывезці... Не, разбурэнне патэнцыялу калгасаў — гэта не шлях выхаду з крызісу.

**М.А.Шлома:** — Для таго, каб актывізавалася работа ў радах аграрнікаў, на маю думку, трэба, каб больш актыўна працавалі раённыя арганізацыі Саюза аграрнікаў і Савета калгасаў. Знаходзячыся неяк у адным з раёнаў, я пацікавіўся ў кіраўнікоў гаспадарак, хто ўзначальвае Савет калгасаў у раёне, — і не сказалі. Значыць, самі сябе прадстаўляем. Напэўна, адсюль і ўсе беды, разлад.

**І.К.Галко:** — Розныя думкі прагучалі тут, розныя меркаванні. Пажадана б часцей паказваць у газеце гэтых людзей. Мар"ян Іосіфавіч, Уладзімір Пятровіч, Антон Уладзіміравіч, ды і многія іншыя — гэта ўмелыя, вопытныя кіраўнікі, вельмі працавітыя людзі. Іх праца надзвычай складаная. Яе не трэба прыхарошваць, а паказваць такой, якая яна ёсць. Паглядзіце: толькі пачынае віднець, звоніш старшыні, а ён ужо гадзіну ці дзве на нагах. Дырэктар завода закончыў у 18 гадзін свой рабочы дзень — і ён ужо не адказвае за рабочага. Яму ніхто не звоніць, што там — святла няма, а там — нешта спынілася. Пра ўсё гэта ён даведаецца заўтра раніцой. Дзіця захварэла ў рабочага, у бальніцу патрэбна. Гэта яго не хвалюе. А старшыня ўвесь час, ад пад"ёму да адбою, павінен думаць пра людзей. У нас у горадзе многія не ведаюць вясковага жыцця, а тым больш надзвычай клапатлівага, з-за розных эканамічных няўвязак, жыцця кіраўнікоў гаспадарак.

Журналісты шчыра падзякавалі гасцям за цікавую размову, якая абавязкова знойдзе свой працяг на старонках газеты ў форме новых цікавых артыкулаў, інтэрв"ю, карэспандэнцый.

*Іван АБАБУРКА,*
*аглядальнік "Мінскай праўды".*

■ Марысіны "анекдоцікі"

**Душа цёткі Марысі, як чуйны барометр, улоўлівае ўсе вясковыя навіны. Зойдзе да каго-небудзь у хату, пагутарыць гадзіну-другую , і "блок інфармацыі" гатовы.**

## "ЦЫВІЛІЗАВАНАЯ" АРЫНА

У суседкі маёй Арыны Зубок сын Казімір дзесьці ў камерцыі ашываецца. І жыве, мусіць, няблага. На легкавіку раз"язджае, уся сям"я ходзіць у дарагіх джынсах-шмынсах. Кажа, што мы тут у Альхоўцы — цёмныя, што не ведаем смаку цывілізацыі.

Пад восень сёлета той Казімір з усёй сям"ёй паехаў на адпачынак ажно ў Турцыю, а сваю аўчарку прывёз маці. Вялізная такая аўчарка, як жарабя, зваць Бэсі. Арына разрываецца. Вядома, поўны хлеў свіней, гусей, курэй. Усіх трэба дагледзець, печ напаліць. А тут гэтая Бэсі. І абы-чаго есці не хоча. Ёй вары супчык з курацінай, а на другое кладзі ножку гусіную. Праклінае Арына гэтае "жарабя", ды нічога не зробіш. У дождж і холад вядзе Бэсі на прагулку. Згорбленая, брэнкае кабета па загуменні. Усе мы шкадавалі Арыну. Трэба ж было на старасці год у гэтую цывілізацыю залезці.

Жанчына яна негаваркая, усё трымае ў душы, не паскардзіцца нікому. Ды ў вёсцы сакрэтаў няма. Пакуль той Казімір вярнуўся з адпачынку, дык амаль усю жыўнасць, асабліва птушку, падчысціла пражэрлівая Бэсі. Кажуць, што Арына сказала сыну, каб больш не прывозіў аўчарку ў вёску, што яна дажыве свой век і без цывілізацыі.

## ВЕРТЫКАЛІ-ПАРАЛЕЛІ

Ехала нядаўна ў райцэнтр у госці да сына. Ля вёскі Церабілаўка ў аўтобус зайшлі два старыя мужчыны. Адзін высокі, гарбаносы, у вайсковым бушлаце. Другі хударлявы, у гумавых ботах. І, відаць, глухаваты. Бо ля вуха прымацаваны чорны апарацік. І ўсё перапытвае: "Што, га?", "Што, га?". Гарбаносы гаварыў гучна: "Мо пяты раз еду да начальства. Не магу дабіцца, каб газ урэзалі ў хату, хаця провад ідзе пад вокнамі. То праект зрабілі з нейкай трасцай, забракавалі, то трубы перахапіў кладаўшчык. Хутчэй бы прыйшла ў Саветы тая вертыкаль. Мо зашавеляцца чыноўнічкі".

Той, што ў гумавых ботах, часта-часта заморгаў: "Што, га? Якая вертыкаль? Плюнь у дзесяты сук. Я другі год абіваю парогі розных устаноў, хачу, каб залічылі ў пенсіённы стаж тыя гады, калі рабіў на Поўначы, на лесанарыхтоўках. Кажуць, дакументы падазроныя, пячатка слаба высвечвае". "А ты сунь хабар, дык будзе тая пячатка свяціць як сонца", — зарагатаў даўгавязы. "Што, га? Хабар, кажаш? Даваў ужо, і не раз. Ды, мусіць, не туды цэліў. Што, га? Не, наўрад ці вертыкалі-паралелі нешта зрушаць з месца".

## ПАЦЯРУХА

І што гэта дзеецца, і да чаго мы дойдзем? Адны гаруюць, другія раскашуюць. Манька Канцавая /пра яе ўжо гаварыла не раз/ ледзьве сцягвае канцы з канцамі, сям"я вялікая, муж памёр. Хаця і трымае кароўку. Пракарміцца ды адзецца ой як нялёгка на сённяшні час.

Вось неяк ішла Манька з фермы /яна цялятніцай працуе/ і бачыць, што ляжыць пад страхою куча амецяў. Амаль згніўшыя, чорныя ад дажджу. Яна ўзяла і насыпала ў мех трохі той пацярухі. А загадчык фермы Пупейка тут як тут: "Аштрафуем. Зладзейка. Пазбавім прэміі". І забраў той мех, пашыбаваў да старшыні скардзіцца. Манька плакала, доўга не магла ад сораму на вочы людзям паказацца. Потым вырашыла забраць свой мех, пайшла да загадчыка фермы дамоў. Бачыць, за высокім тынам Пупейка з нейкімі мужчынамі разгружаюць трактарны прычэп канюшыны. Дзе ўзяў? Вядома, украў, з фермы прыцягнуў. Бо трох кароў трымае, двух бычкоў. Манька хацела падыйсці, разануць загадчыку праўду-матку ў вочы, але раптам бразнуў ланцуг, і да яе кінуўся з брэхам сабака. Ледзьве ўцякла кабета. І пра мех забылася.

А вы кажаце: дэмакратыя, роўнасць. Пакажыце мне ўсё гэта. Дзе яно?

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## ВЕДЕТСЯ ПОИСК

6 ноября 1994 года в 18 часов 30 минут на автодороге Жодино—Будагово в черте г.Жодино неустановленной автомашиной смертельно травмирована женщина-велосипедист. В совершении автонаезда подозревается водитель автомашины ВАЗ-2106 светло-бежевого цвета.

Очевидцев и свидетелей данных происшествий просим сообщить в ГАИ Минской области по тел. 591-444, 544-244 или в местный отдел милиции по тел. 02.

■ Спорт

## "ЦІВАЛІ" СЯРОД ПАЎФІНАЛІСТАЎ

Упершыню ў гісторыі беларускага хакея з 11 па 13 лістапада ў Мінску пройдзе паўфінальны турнір 30-га розыгрышу Кубка Еўропы. У ім прымуць удзел мінская каманда "Цівалі" і чэмпіёны сваіх краін — славацкая "Дукла", аўстрыйская "Саміна" і "Кардзіф дэвілз" з Вялікабрытаніі.

Як лічаць спецыялісты, асноўным канкурэнтам мінскай каманды "Цівалі" ў барацьбе за першае месца ў паўфінальнай групе будзе "Дукла", якая ў мінулым сезоне стала чэмпіёнам краіны і лідзіруе ў першынстве сёлета. Што датычыць каманды "Саміна", то гэта знаёмы нам клуб "Фельдкірх", які атрымаў новую назву па просьбе спонсара. Пяціразовы чэмпіён Аўстрыі ў сёлетнім першынстве займае трэцяе месца, пяты раз удзельнічае ў Кубку Еўропы. Толькі восем гадоў назад была створана хакейная каманда ў горадзе Кардзіф, а яна ўжо заявіла аб сабе на еўрапейскім кантыненце і двойчы ўдзельнічала ў Кубку Еўропы.

Што датычыць "Цівалі", то нашы хакеісты заключны этап падрыхтоўкі да кубкавых матчаў праводзяць у Раўбічах, выязджаючы на трэніроўкі ў Мінскі Палац спорту раз, а то і два разы на дзень.

Для аматараў хакея паведамляем каляндар турніру: 11 лістапада: 15.00 — "Кардзіф дэвілз" — "Дукла", 18.30 — "Цівалі" — "Саміна"; 12 лістапада: 15.00 — "Дукла" — "Саміна", 18.30 — "Цівалі" — "Кардзіф дэвілз"; 13 лістапада: 15.00 — "Саміна" — "Кардзіф дэвілз", 18.30 — "Цівалі" — "Дукла".

Пераможца паўфіналу атрымае пуцёўку на фінал Кубка Еўропы ў Хельсінкі, а другая каманда будзе мець шанц трапіць туды па лепшых паказчыках сярод усіх чатырох клубаў, якія ў сваіх групах акажуцца на другіх месцах.

## ПАСЛЯ ДВУХ ТУРАЎ

Закончыўся другі тур чэмпіянату Беларусі па ручному мячу сярод мужчынскіх каманд. Зноў выдатна выступіла мінская каманда СКАФ, якая не страціла ніводнага ачка. Яна бясспрэчны лідэр — 14 ачкоў, на пяць больш, чым у гандбалістаў з Наваполацка, якія знаходзяцца на другім месцы.

На папярэднім этапе восем каманд правядуць гульні яшчэ ў двух турах, а потым да мацнейшых далучыцца мінскі СКА. Менавіта на завяршальным этапе і будзе разыграна званне чэмпіёна.

## ЧЭМПІЁНКІ СТАЛІ МАЙСТРАМІ

Фехтавальшчыцы нашай вобласці сталі пераможцамі Гульняў моладзі Рэспублікі Беларусь. Асаблівы поспех спадарожнічаў рапірысткам. Яны занялі ўсе прызавыя месцы. На п"едэстал гонару падняліся Яўгенія Дземчанка, Наталля Ушакова і Наталля Краўчанка. Ім уручаны пасведчанні майстроў спорту Рэспублікі Беларусь.

## У АДЗІН ДЗЕНЬ

Па просьбе нарвежскай федэрацыі футбола матч алімпійскіх зборных Беларусі і Нарвегіі адбудзецца не 15 лістапада, а 16, у той жа дзень, калі будуць гуляць і нацыянальныя зборныя гэтых краін. Удакладнена і месца правядзення гэтых гульняў. У 13 гадзін на мінскім стадыёне "Тарпеда" сустрэнуцца алімпійскія каманды, а ў 19 гадзін на стадыёне "Дынама" ў адборачным матчы чэмпіянату Еўропы згуляюць паміж сабой зборныя Беларусі і Нарвегіі.

## ЛІДЭР АСТУПІЎСЯ

Сем матчаў запар не прайгравалі ў чэмпіянаце жаночай Міжнароднай баскетбольнай лігі спартсменкі мінскага "Гарызонта". І вось у чацвёртым туры мінчанкі ўступілі лідэрства, прайграўшы ўсе тры матчы. У серыі "плеф-оф" ім цяпер трэба будзе сустрэцца з рыжскім клубам ТТТ.

## ДЛЯ АЛІМПІЙЦАЎ

Пасля таго як гімнасткі Беларусі заваявалі ў Японіі Кубак свету, яны пры сустрэчы з Прэзідэнтам рэспублікі А.Р.Лукашэнкам паскардзіліся:

— Праз два гады ў Амерыцы адбудуцца Алімпійскія гульні, мы думаем і на іх заняць высокае месца. Ды не маем памяшкання для трэніровак, займаемся ў выпадковым, непрыстасаваным...

Аляксандр Рыгоравіч хутка адрэагаваў на скаргу спартсменаў. Міністэрству фінансаў дадзена даручэнне выдзеліць сродкі на ўзвядзенне сучаснай залы для мастацкай гімнастыкі, а Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва увесці яе ў строй да 1 ліпеня будучага года.

Аб"ект даволі складаны, а тэрміны — сціслыя. Таму ўзводзіць яго даручана салігорскаму будтрэсту № 3, які ўжо не раз дэманстраваў высокія якасць і тэмпы работ на важных сталічных будоўлях. Атрымана праектна-каштарысная дакументацыя. І хаця з заказчыкам яшчэ не заключаны дагавор, непадалёку ад Камсамольскага возера, на тэрыторыі спарткомплексу "Дынама", салігорцы забілі ўжо першую палю для новага будынка. Дарэчы, сваёй, арыгінальнай канструкцыі, бо высокія грунтавыя воды і не дазваляюць майстраваць звычайны падмурак.

Дададзім, што спартыўная зала павінна адпавядаць сусветнаму ўзроўню. Вышыня столі — 10 метраў. Прадугледжаны шэраг дапаможных памяшканняў, якія будуць садзейнічаць эфектыўнасці трэніровак гімнастак.

/НАШ КАР./

Лампада

# Библия: книга тайн

## Она — история личной встречи Бога и человека

**Библия сегодня — самая доступная, но и самая малоизвестная российскому читателю книга. И речь идет даже не о слабом знакомстве с содержанием Писания Ветхого и Нового Завета. Почти каждый имеет хоть какое-то представление об образе Христа — по литературным произведениям, по музыкальным творениям композиторов, по живописным полотнам великих мастеров прошлого и даже по фильмам. Но образ этот оказывается порой лишь одним из многих в ряду различных богов — будь то боги греческой мифологии или древних скандинавских саг. И далеко не всякий поэтому может повторить слова Ф.М.Достоевского: «Что за книга это Священное Писание; какое чудо и какая сила, данные с нею человеку! Точное изваяние мира и человека и характеров человеческих, и названо все и указано на веки веков. И сколько тайн разрешенных и откровенных...». Для Достоевского мир Библии — отнюдь не мир древних мифологий, но мир вполне реальный, ощутимая часть собственной жизни. Каждый из нас может увидеть в Священном Писании то же самое, что видели в нем многие мыслители и люди искусства прошлых веков и наших дней.**

Библию можно сегодня достать без особого труда — нужно лишь зайти в любой православный храм или в крупный книжный магазин. И действительно, покупают и читают ее многие. И все же основная трудность здесь заключается в том, что уметь читать и уметь прочесть — это разные, необязательно связанные между собой вещи. Ведь Евангелие можно прочитать и вслух вовсе не знающему букв ребенку, и тем не менее он поймет подлинный смысл евангельского рассказа в чем-то лучше, чем решившийся почитать Священное Писание «на досуге» хорошо образованный интеллигент-атеист. И Библию тоже можно читать только ради собственного удовольствия, видя в ней лишь красивые легенды прошлых тысячелетий. В ней можно усмотреть и увлекательную историческую повесть, и шедевр мировой словесности, и учебник по обособленным от всякой божественной реальности голым принципам так называемой «общечеловеческой» нравственности. Но в Библии можно увидеть и гораздо большее — совсем иной уровень надмирного бытия, постепенно раскрывающегося перед внимательным и вдумчивым читателем.

Понятие «Библия» — греческое. И переводится оно простым словом «книги». Ведь Библия — это истинно не только «книга», но и «книги» и даже «Книга Книг» — как основание, источник и начало всей созданной позднее христианской мировой литературы.

Когда мы хотим посадить дерево, мы берем семя, закапываем его во взрыхленную почву и поливаем водой. Со временем из него может вырасти огромное дерево с многоохватным стволом, мощными крепкими ветвями и тенистой раскидистой кроной. И, однако, в мельчайшем семечке уже целиком находится и живет это высокое дерево, на котором когда-нибудь, много лет спустя, смогут свить гнезда небесные птицы. Такова и Библия. Она не только «книга», но и многообразная полнота книг, то семя, в котором уже пребывают все подлинно прекрасные плоды христианской словесности и шире — культуры в целом: богословия и философии, прозы и поэзии, музыки и живописи. Библия — семя, «алфавит духовный» православной книги. И только будучи знакомы с этим «алфавитом», мы сможем подлинно понять творчество Пушкина и Гоголя, Достоевского и Лескова. Тем более что сами писатели эти просто не мыслили себя и своей жизни вне Библии, вне Евангелия. А.С.Пушкин незадолго до своей кончины, в 1836 году, писал: «Есть книга, коей каждое слово истолковано, объяснено, проповедано во всех концах земли, применено ко всевозможным обстоятельствам жизни. Сия книга называется Евангелием, — и такова ее вечно юная прелесть, что если мы, пресыщенные миром и удрученные унынием, случайно откроем ее, то уже не в силах противиться ее сладостному увлечению и погружаемся духом в ее божественное красноречие».

Когда друзья советуют нам прочесть ту или иную незнакомую книгу и приносят ее нам, мы берем ее в руки и, порой недоверчиво перелистывая, спрашиваем: «А о чем она?». И если мы никогда не читали Библию, то мы можем спросить то же самое и о ней. Но так уж получилось, что Библия — единственная книга, по отношению к которой сам этот вопрос «О чем?» — неуместен. И происходит это отнюдь не потому, что Библия — книга «ни о чем» или что она бессюжетна. Просто основная тема Библии, предмет ее содержания не может отвечать на вопрос «что?». Нам следует спросить несколько иначе: «О ком эта книга?». И ответ тогда будет таков: «Эта книга о Христе». Тот, кто хотя бы немного знаком с текстом Библии, может вполне обоснованно возразить, что ведь собственно рассказ об Иисусе Христе присутствует лишь во второй и вовсе не самой большой (по занимаемому объему) ее части — в Новом Завете. А как же Ветхий Завет с его историческими хрониками, с его пророчествами, законами и духовными гимнами? На это можно ответить, что весь Ветхий Завет, с рассказами о царях и войнах, смертях и чудесах, с включенными в него молитвами и песнопениями, также говорит только об одном — о Христе-Мессии или Спасителе; он весь проникнут ожиданием Его явления в мир. Христа как Мессию воспевает псалмопевец Давид, о Нем возвещают пророки, Его ожидает чающий своего избавления древний Израиль. Пусть и пока что почти незримо, легкой тенью, едва различимым таинственным силуэтом присутствует Он на страницах, повествующих об этих древних, не слишком хорошо известных даже серьезному историку событиях и временах. Но стоит чуть внимательней вглядеться в содержание этой книги, как перед нами предстает образ Сына Божия: Ангела Великого Совета и в то же время смиренного «Раба Иеговы» — образ Богочеловека Иисуса Христа. Это есть образ Царя, наделенного великой властью и вместе с тем принявшего на себя немощи и болезни человеческого рода; но это есть и образ Искупителя, причтенного к злодеям, добровольно пострадавшего, принесшего умилостивительную жертву, потерпевшего за нас казнь и возведенного к жизни из бездн земли. Итак, вся ветхозаветная история, повествующая нам о невзгодах и трудах народа Израиля, о десятилетиях войн и редких днях благоденствия и мира есть только очень долгое ожидание Христа, многовековой путь к Его Рождеству.

История, рассказанная в Библии, — это история только лишь одной Встречи, но Встречи, продолжающейся вот уже два тысячелетия — Встречи лицом к лицу Бога и человека.

Когда встречаются двое, и этим двоим есть что сказать друг другу, они попросту не способны молчать. Встреча Бога и человека — не исключение. Бог христианства есть тот, к кому можно обратиться и сказать «Ты». Бог для православного сознания — Бог Личный и Бог-Личность. Именно поэтому при встрече с ним человек встречается не с какой-нибудь высшей, разлитой во Вселенной, слепой и могучей силой, но с существом, по образу и подобию которого он сотворен. Встречаясь с христианским Богом, человек находит в нем собеседника. Так становится возможен тот диалог, что не прерывается на протяжении многих сотен страниц библейского текста. Человек то коленопреклоненно обращается к своему творцу со смиренной молитвой (ведь молитва — тоже особый род разговора, где участвуют две стороны — просящий и отвечающий действием на просьбу), то прославляет его в своих песнопениях, перебирая струны псалтыри, то упрекает его в кажущейся несправедливости, как делает это ветхозаветный Иов. Человек обращается к Богу со словами боли и надежды, смирения и упования, веры и любви. И Бог не молчит при этом, но всякий раз дает свой ответ, произносит свое слово. И главнейший, конечный ответ его в ходе библейского рассказа — то произнесенное слово, о котором говорится в Евангелии от Иоанна: «В начале было Слово, и Слово было у Бога, и Слово было Бог»; то слово, которое, воплотившись, «обитало с нами» — Бог-Слово, Сын Божий, Иисус Христос.

Библия способна соединить собой самых непохожих и разных людей. Именно поэтому одним из центральных смысловых моментов православного богослужения является чтение вслух Священного Писания. И делается это совсем не для того, чтобы библейские тексты услышало и узнало сразу как можно большее число присутствующих. Ведь православный христианин и так читает или может прочитать эти тексты дома. Цель подобного общего прочтения — совсем в ином. Такое чтение — соборно; оно соединяет слушающих его людей друг с другом и всех вместе — с Богом. При подобном чтении нам становится все труднее ощущать и выражать себя только лишь как «я», но делается все более естественным сказать о себе и «мы». Почему же это так происходит? Находясь в общении через совместное слышание и восприятие Слова Божия, через участие в богослужении, православные христиане осознают себя как Церковь — как ее часть, как ее «телесные члены»; глава же этого тела — сам Христос. И тогда оказывается, что уже не «я» слушаю слово, обращенное Богом к человеку, но «мы» — в единстве и единомыслии слушаем его. «Где двое или трое собраны во имя Мое, там Я посреди них», — говорит в Евангелии от Матфея Иисус. Только подлинное соединение верующих во Христе во время богослужения или тем более во время совершения церковного таинства и дает то особое, преображающее человека восприятие Библии, которое остается недоступным нам при личном домашнем чтении — тоже очень нужном, но все же преследующем несколько иные цели.

Итак, встреча человека с Богом в стенах храма — встреча, объединяющая всех христиан перед лицом творца. Однако описанная в Библии история встречи — это прежде всего история именно личной встречи Бога и человека.

Каким же образом может произойти такая встреча?

В Книге Царств — одной из библейских книг Ветхого Завета — повествуется о таинственном явлении Бога пророку Илии. Спасаясь от гнева покровительствовавшего язычникам царя Ахава, пророк истинного Бога Илия путешествовал по пустыне, где ему, спящему под можжевеловым кустом, явился ангел и повелел отправиться в дальнюю дорогу. Сорок дней и сорок ночей шел Илия по указанному ему пути к горе Хорив. На этой горе он нашел пещеру, в которой и заночевал. Здесь он вдруг услышал обращенное к нему слово Божие, повелевающее ожидать явления Господня, а затем, лишь дождавшись его, выйти наружу и встать на горе. Тотчас же поднялся сильный ветер, от которого рушились даже огромные скалы; но не в ветре явился ему Господь. Затем началось землетрясение, и гора колебалась под ногами пророка; но и не в землетрясении явился ему Господь. И вот вокруг уже запылал огонь, но и в нем еще не было присутствия Божия. И, наконец, тихим веянием коснулся лица пророка легкий ветер; и именно в этом тихом дуновении ветра — в прикосновении Духа Святого — почувствовал он присутствие Господа, поднялся и вышел на гору. Лицо пророка было закрыто, ибо знал он, что нельзя ему увидеть Бога и при этом не умереть. Он стоял у входа в пещеру и ждал, пока не раздался голос, вопрошавший его: «Что ты здесь, Илия?» И после слов этих начался разговор...

Не в грозе и огне, не в буре и землетрясении является нам Господь, но в тихом веянии ветра, а порой — и в тихом шелесте библейских страниц. И листая эти страницы, мы всегда должны быть готовы услышать обращенный к нам вопрос: «Что ты здесь?» Ради чего ты открыл эту книгу?

Вопрос задан. Так что же мы скажем в ответ?

**Петр МАЛКОВ,**
**студент Свято-Тихоновского православного богословского института.**

"Труд".

■ Аднавяскоўцы

# ДАЧНІЦА,

## або Пра тое, як бабуля Шура паўкаровы нажыла

БАБУЛЮ Шуру ў нашай вёсцы ведаюць многія. Яна з мясцовых. Аднак, нягледзячы на гэта, ведаюць яе хутчэй як дачніцу. Бо доўгія гады яна пражыла ў Мінску. Цяпер, калі на жыццёвым календары значыцца восень, прыехала яна ў родную вёску Таўкачэвічы, дзе чакала яе хата, што дасталася ў спадчыну.

— Прымусіла мяне гэта зрабіць трохгадовая ўнучка Анечка, — гаворыць бабуля Шура. — А дакладней, яе бацькі. Слабенькая расла ўнучка. Вось і падумала, што свежае паветра ды «свойскае» малако выратуюць яе...

Вось так на пару — бабка ды ўнучка — і ладзілі сваю гаспадарку. Пачыналі з адной каструлі і дзвюх лыжак. Прынцыпова. На агародзе працавалі з ранку да вечара. «Запісалася» бабуля Шура адразу і ў калгас. Узяла дзялянку буракоў.

Вёска вёскай, а адчувалася ўсё ж і гарадское прыцяжэнне. Як-ніяк, а чатыры дзесяцігоддзі прайшлі там. Працавала Аляксандра Іванаўна Вашкевіч прадаўцом. Яна выдатнік гандлю. Чалавек вельмі працавіты ды сумленны.

Непрыкметна праляцелі тры дачныя гады. Дачныя пакуль напалавіну, бо часцяком бывала ў гарадской кватэры, дзе засталіся муж, дачка. Паступова паездкі радзелі, іх змяніў аседлы ўклад жыцця. Пачалася вясковая эканоміка. Рэшткі ежы, якія раней адносіла да родзічаў, упадабаў уласны парсючок, а потым і дзве курыцы з"явіліся на падворку.

— І пайшло-паехала, — усміхаецца Аляксандра Іванаўна. — Цяпер ужо ў гаспадарцы пяць свіней, карова, авечкі, куры. Не ўсё адразу, вядома, нажывалася. Напачатку ўвогуле толькі паўкаровы нажылі: баяліся, што не справімся.

— Як гэта — паўкаровы?

— Адну, на дзве сям"і.

Вядома, не справіцца б бабулі Шуры адной з усёй гэтай гаспадаркай, каб на пастаяннае жыхарства не прыехаў у вёску муж Іосіф Данілавіч, у мінулым майстар політэхнічнага інстытута. Працавітыя, дружныя, шчырыя, з гумарам, прыжыліся Вашкевічы ў вёсцы. Паважаюць, любяць, а ў чымсьці і зайздросцяць ім. Чаму зайздросцяць? Хіба толькі руплівасці, увішнасці, працавітасці. Менавіта дзякуючы гэтым якасцям даглядаюцца соткі, дзе расце бульба і ячмень, у агародзе спее багаты ўраджай, ды і ўчастак калгасных буракоў не горшы, чым у людзей.

Агародніны, садавіны, ды і мясных прадуктаў хапае ўдосталь і сынавай сям"і, і дачцэ. А тыя ў сваю чаргу таксама не заседжваюцца ў горадзе. Увесь вольны час праводзяць тут, на дачы.

— Ведаеце, ніколі мы так моцна не жылі, як цяпер, — уключаецца ў размову Іосіф Данілавіч, — хоць і жонка ў магазіне працавала. Удосталь хапае ўсяго. Толькі на ўсё гэтае «сваё» працаваць ды працаваць трэба. Нават паесці больш двух разоў на дзень за работай няма часу.

«Закідвае» на лета сваё шыццё, вязанне, вышыванне, пірагі і бабуля Шура. Поўнасцю пераключаецца на нарыхтоўку і перапрацоўку ўраджаю. Ну а жывёла пастаяннага догляду патрабуе. Так што як ні круці, а з вольным часам у вёсцы тугавата.

— Ну а ўнучка, дзеля якой усё пачыналася?..

— Шасцікласніца ўжо, цудоўная дзяўчынка, — радуецца бабуля Шура. — Памочніца наша, усе канікулы праводзіць тут. І кароўку з поля сустрэне, і ў магазін па хлеб сходзіць, і градку праполе. А тарты якія выпякае — залюбуешся! Выратавала дача нашу ўнучку. Ды і нам дапамагла. Таму, калі пракарміцца і выжыць цяжка, паспрабуйце на зямлі працаваць. А яна, карміцелька, усім аддзячыць. Нездарма ж у народзе кажуць: «Працуй, нябожа, то і Бог паможа».

Дзесяць гадоў споўнілася сёлета дачнаму саюзу Вашкевічаў. Яблыкі ўжо нарыхтоўваюць на зіму з тых дрэў, якія садзілі ў першы дачны год. Шчодра частуюць садавінай суседзяў і знаёмых. І часта, вельмі часта ўспамінаюцца словы суседкі:

— І калі ты, Шура, тых яблыкаў прычакаеш, што садзіш?

Прычакала, дзякуй Богу.

*Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ.*
*Уздзенскі раён.*

## ЖЫЎ У БАГДАНАВЕ МАСТАК

Гісторыка-краязнаўчы музей Багданаўскай сярэдняй школы — адзін з лепшых у Валожынскім раёне. Яго экспазіцыя прысвечана знакамітаму земляку — жывапісцу, графіку, тэатральнаму дэкаратару і педагогу Фердынанду Рушчыцу, чый фамільны маёнтак некалі быў у Багданаве.

Не так даўно ў музеі з"явіўся каштоўны экспанат. Перадаў яго ў час наведвання сваёй малой радзімы Здзіслаў Кавэцкі, цяпер прафесар Ольштынскай акадэміі сельскай гаспадаркі ў Польшчы. Кніга называецца «Фердынанд Рушчыц: жыццё і творчасць». Упершыню гэтае багата ілюстраванае выданне ўбачыла свет у 1939 годзе ў Вільні, праз два гады пасля смерці мастака, і доўгі час не перавыдавалася. Цяпер жа рэпрынтнае выданне з"явілася ў Польшчы.

Паводле сведчанняў спецыялістаў, лепшыя творы мастака, напісаныя ў ранні перыяд у Багданаве, вылучаюцца рэалістычным паказам роднай прыроды.

Дарэчы, у раёне працуе 14 школьных музеяў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## ХАТНІ ЭКРАН!

### 10 лістапада, чацвер

**Беларускае тэлебачанне**

15.25. ТБ — школе. Геаграфія.
15.55. "Еўрапейскі калейдаскоп".
16.25. "Вялікі Ух". Мультфільм.
16.35. "Бімбат".
17.00. Навіны (з сурдаперакладам).
17.10. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
18.10. Навіны (Гродна).
18.15. Пяць хвілін на жарты.
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. "Так гэта было...".
19.30. Вытокі. Урокі беларускай мовы.
19.45. Палеская восень. Дзве сустрэчы на адчужанай зямлі.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. "Крок". "Правінцыя". Іванаўскі раён. Частка 2-я.
22.15. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Вячэрні ілюзіён: "Раман імператара. Дварцовая хроніка". 3-я серыя. Дайджэст. Пад купалам Сусвету. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. Стоп-кадр. Крымінальная хроніка. "Крок". "Супермадэль Беларусі-95".

**Канал "Астанкіна"**

15.00. Што цікавага?
15.20. Мульцітролія.
16.00. Тэт-а-тэт.
16.20. "Элен і хлопцы". Тэлесерыял.
16.50. Свет сёння.
17.00. ...Да 16 і старэйшым.
17.30. Мініяцюра.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". Э.Хонэкер.
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза".
18.55. "Грэм Грын". Аўтарская праграма Г.Баравіка.
19.40. Добрай ночы, малышы.
20.40. Масква—Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
21.30. Канцэрт, прысвечаны Дню міліцыі. У перапынку (23.50) — Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

15.20. "Уратуйце нашы душы", "Першы дубль".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Свята кожны дзень.
16.15. Тэніс. "Кубак Крамля".
17.15. Будні.
17.55. У свеце аўта- і мотаспорту.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.30. Шостае пачуццё.
21.00. Ніхто не забыты.
21.10. XX стагоддзе ў кадры і за кадрам. Леанід Філатаў.
22.20. Аўтаімгненне.
22.30. Рака часу.
22.35. Тэніс. "Кубак Крамля".
23.05. "Штэмп". Маст. фільм.
0.35. Зоркі гавораць.

### 11 лістапада, пятніца

**Беларускае тэлебачанне**

9.30. "Маё каханне, мой смутак".
10.30. "Раман імператара. Дварцовая хроніка". 3-я серыя.
11.25. "Доктар Айбаліт". 7-я серыя.
11.35. "Бімбат".
12.00. "Госця з будучыні". 4-я серыя.
13.05. "Чароўная птушка". Мультфільм.
13.15. Мы гэта можам. Дабрачынная акцыя для дзяцей-інвалідаў. Частка 2-я.
14.05. "Прахіндзіяда, ці Бег на месцы". Маст. фільм.
15.30. "Я + Я". Мужчына і жанчына.
16.10. "Кірыла Тураўскі", "Вяртанне паэта". Д/ф.
16.40. "Бімбат".
17.00. Навіны (з сурдаперакладам).
17.10. "Піліпок". Мультфільм.
17.20. Вяскоўцы. Сам сабе гаспадар.
17.50. Тэлевізійны клуб паляўнічых і рыбаловаў "Удача".
18.10. Навіны (Магілёў).
18.25. Пяць хвілін на жарты.
18.35. Навіны (Бі-бі-сі).
19.10. Эканамікст.
19.20. Хакей. Кубак Еўропы. "Цівалі" (Мінск) — "Фельдкірх" (Аўстрыя). 2-гі і 3-ці перыяды. У перапынку (19.55) — Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Студыя "Тэлесябрына". Падарункі на добры настрой.
21.55. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Вячэрні ілюзіён: "Раман імператара. Дварцовая хроніка". 4-я серыя. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. Дайджэст. Пад купалам Сусвету. "Таміра" прапануе: "Неверагодны заклад, ці Сапраўднае здарэнне, якое паспяхова завяршылася сто гадоў таму назад". Маст. фільм.

**Канал "Астанкіна"**

8.20. "Дзікая Роза".
9.00. Агарод круглы год.
9.30. "Кітай. Погляд з правінцыі".
15.00. "Пітэр Пэн". 1-я серыя.
16.30. Рок-урок.
16.50. Свет сёння.
17.00. Чалавек і закон.
17.30. Галасы Расіі. Спявае Сяргей Дружынін.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". П.Кардэн.
18.00. Бамонд.
18.25. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Чалавек тыдня.
21.00. "Вуліцы Сан-Францыска". Тэлесерыял.
22.00. Адзіны дубль.
23.05. Музабоз прапануе: "Пінк Флойд" — сусветнае турнэ. У перапынку (23.50) — Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

7.20. Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. "Ай, любая сястрыца". Мультфільм.
8.35. Паехалі.
8.45. Васковыя персоны.
9.45. "Санта-Барбара".
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. "Веер".
15.35. Там-там навіны.
15.50. Свята кожны дзень.
16.00. Тэніс. "Кубак Крамля".
16.55. "Гектар — безбілетны пасажыр". 2-я серыя.
17.55. Кліп-антракт. С.Лазарава.
18.05. Альманах сучаснай фантастыкі.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.30. Сам сабе рэжысёр.
21.05. "К-2" прадстаўляе: "Перпендыкулярнае кіно".
22.20. Аўтаімгненне.
22.30. Рака часу.
22.35. Тэніс. "Кубак Крамля".
23.05. "Дом спатканняў". Маст. фільм.

### 8 канал

**Четверг, 10 ноября**

18.00 Мультфильм "Астерикс и сюрпризы Цезаря" (Франция). 2-я часть.
18.50 Документальный фильм "Первый баталист революции".
19.10 Телесериал "Морена Клара".
20.00 БАНТ: "Репортаж".
20.15 К сведению.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия "БМ": "Квадракола".
21.50 Художественный фильм "Крепкий орешек-2".

**Пятница, 11 ноября**

18.00 Мультфильм США "Том и Джерри".
18.15 Музыкальный фильм "Все будет так, как мы хотим".
18.55 СОЛТЭК: "Доремифасольки".
19.05 Телесериал "Морена Клара".
20.00 Агентство "Пармикс": "Городские часы", "Новости".
20.10 Размовы ад Вовы.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия "БМ": "Девятое облако".
21.45 Время местное.
22.15 "Техимпром-групп" и ДП 8 ТВК представляют художественный фильм "Самые сумасшедшие в мире пилоты".

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна-эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

Заснавальнік — *Мінскі абласны Савет дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Індэкс 63923. Зак.№120.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12